

Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

## МІНІЯЦЮРЫ

### Сяргей ЛАПЦЁНАК

**Авечка і воўк**

З класічнай ведаем літаратуры:
Воўк небяспечны у авечай шкуры.
Ды будзе болей небяспечна,
Як апранецца ў шкуру воўчую авечка.



### Мікола ЧАРНЯЎСКІ

**«Шчодрасць»**

Ён грошы скупа
Не замоўчваў:
Сусед купляў,
А ён — замочваў.



### Міхась УЛАСЕНКА

**Церушынкі**

Прырода не спрыяе пустаце:
Там, дзе не сеюць,
дык палын расце.

### Анатоль ЦЫРКУНОЎ

**Не ў імені справа**

Артысту, каб зрабіў кар'еру шпарка,
Змяніць імя параіла цыганка.
І вось Антон Антонія назваўся,
Але як бездар быў, так і застаўся.




### Дзмітрый ДЗЕМІДОВІЧ

**Найперш — цешча!**

Каб нам жылося значна лепш,
Не рвалася, дзе тонка,
Любіце цешчу вы найперш —
І добрай стане жонка!



***

Тры браты жывуць у згодзе:
П'яніца, гультай і злодзей.

***

Сціплы праўду рэзаць мусіць,
А хто божыцца — той хлусіць.

## Думкі ўголас

● Дыназаўрам яшчэ пашанцавала: яны вымерлі да з'яўлення чалавека.

● Да чаго дайшла цывілізацыя: дыханне — і тое штучнае!

● Той-сёй хоча злавіць жар-птушку толькі для таго, каб потым аскубці.

● І два боты не пара, калі яны на адну нагу.

● Без жанчын няма жыцця на зямлі, але і з імі — не жыццё.

● Трэці не лішні, калі разам збіраюцца мужчыны.

**Даслаў Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*






Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

**Васіль ФЕРАНЦ**



# Як гусак Гусман у вырай лётаў

*Казка для дарослых*

Стары гусак Гусман апошнім часам усё часцей пачаў задумвацца: пражыў жыццё, а што можа ўспомніць? Дзе быў, што бачыў? Ды анічога... Жывёльны двор, плот вакол яго, поплаў за агародам з невялікай копанкай ды дурныя, гергетлівыя гускі, якія даўно надакучылі. Кожны дзень адно і тое ж...

Аднойчы Гусман набраўся смеласці, пралез праз густы чарот каля копанкі. І нечакана апынуўся на возеры, якога не было відаць за густымі зараснікамі. «Вось дзіва! – падумаў Гусман. – Аказваецца, за плотам ёсць яшчэ нейкі свет...»

На возеры ён убачыў чараду незнаёмых шэрых гусей. Гусман нясмела падплыў да іх, але загаварыць не асмельваўся.

– Ты хто будзеш і адкуль? – заўважыў яго нарэшце гусіны важак.

– Гусак. З падвор'я.

– З якога яшчэ падвор'я?

– Там, за чаротам. Каля хлява... – пачаў тлумачыць Гусман.

– Пляцеш ты абы-што, – недаверліва сказаў незнаёмы гусак. – Гусі не жывуць на падвор'і. Мы – птушкі вольныя...



– Адкуль вы?

– З лясоў, з плёсаў, з поймаў рэк... Цяпер ляцім у цёплыя краіны, у вырай. Перазімуем там і зноў вернемся ў родныя мясціны.

– Вырай? – выцягнуў Гусман шыю. – А дзе ён?

– Вельмі далёка. За марамі і акіянамі. Там заўсёды цёпла, яркае сонейка свеціць круглы год... Але заставацца там мы не хочам. Нам радзіма даражэй!.. Аднак загаварыўся я з табой. Час збірацца ў дарогу... Гусі, гусі, увага-га! Падрыхтавацца да ўзлёту, – і важак накіраваўся ў пачатак чарады.

– А можна і мне з вамі? – Гусман і сам не паверыў, як нечакана і адчайна рашыўся на такі крок.

Важак недаверліва агледзеў яго, крыху падумаў і ўсміхнуўся:

– Ну, калі хочаш і калі здолееш... Займай месца ў канцы чарады.

Гусман, млеючы ад уласнай адвагі, у прадчуванні вялікіх жыццёвых змен, хутка далучыўся да птушынага касяка.

– На ўзлёт!.. Пайшлі-і-і! – скамандаваў галоўны гусак.

Гусман з цяжкасцю ўзняў у паветра сваё важкае, няспрактыкаванае да палётаў цела. Лопаючы крыламі, праляцеў некалькі метраў і цяжка плюхнуўся ў возера.

Гусіная чарада тым часам набірала вышыню, усё больш аддалялася, пакуль зусім не растварылася ў асеннім небе. Толькі доўга яшчэ чуліся развітальныя галасы шэрых гусей...

Пануралы Гусман прабраўся праз чарот назад да роднай копанкі, да сваіх абрыдлых сяброўак. «Дрэнна атрымалася... Добра яшчэ, што яны не бачылі мяне на тым возеры», – думаў ён. Далучыўся да чарады гергетлівых гусак, нібы нічога не адбылося, а тыя нават і не заўважылі адсутнасці гусака...

Але цяпер пры кожным зручным выпадку Гусман задзіраў нос угору і хваліўся сваім сяброўкам:

– Ды што вы бачылі ў сваім гусіным жыцці? А вось я, калі лётаў у вырай!..



## Разлік
















Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА




## Паслядоўнікі Мендзялеева

**Брэсцкая вобласць.** У свой час яшчэ Медзялееў сцвярджаў, што паліць каменным вуглём усё роўна што паліць асігнацыямі, бо з яго можна здабываць дзясяткі карысных і каштоўных рэчываў.

Паслядоўнікі вялікага рускага хіміка атабарыліся недалёка ад пасёлка Ленінскі ў Жабінкаўскім раёне на ААТ «Торфабрыкетны завод «Гатча-Асаўскі». Яны нізашто не аддавалі мясцовы фрэзерны торф на Пружанскую міні-ТЭЦ, дзеля работы якой, дарэчы, і быў пабудаваны завод. Нават самі не палілі яго ў тутэйшай кацельні, а куплялі газ і трэскі.

Як выявіла праверка, Мендзялееў тут не пры чым, бо з-за звычайнай безгаспадарчасці мясцовых чыноўнікаў не былі належным чынам аформлены дамовы на пастаўку торфу на міні-ТЭЦ, каб не вазіць брыкет аж з Жыткавіцкага раёна. Мясцовым бухгалтарам засталося толькі палічыць, колькі грошай з такімі гаспадарамі вылятае ў комін.



## Набыта і… забыта

**Магілёўская вобласць.** Бытавым абслугоўваннем насельніцтва ўсур'ёз занялося кіраўніцтва ДУ «Магілёўаблбыт» і даручыла вывезці абсталяванне для рамонту абутку з тых комплексных прыёмных пунктаў, дзе яно незапатрабавана, туды, дзе ў ім адчуваюць пільную патрэбу. Але да гэтых пунктаў яно чамусьці не даехала і амаль два гады пыліцца на складзе. Не працуе ніхто і на швейным абсталяванні, набытым за дзяржаўны кошт у 2005–2008 гадах за значныя грашовыя сродкі, бо бракуе адпаведных спецыялістаў. А на дзіцячых электрамабілях, якія належаць Чавускаму УКП «Бытпаслугі» і 5 хвілін пракату якіх у Магілёве каштуюць 8–10 тысяч рублёў, два гады ездзяць навыперадкі хіба што пацукі і мышы, што жывуць на складзе.

«Клапатлівасць» магілёўскіх бытавікоў каштуе дорага: страчаная выгада вымяраецца мільёнамі рублёў...




## «Наварысты» рэцэпт

**Мінская вобласць.** Незвычайны рэцэпт новай асфальтабетоннай сумесі вынайшлі кіраўнікі ДРБУ № 735 КУП «Мінскаблдарбуд», вытворчыя магутнасці якога знаходзяцца ў пасёлку Юбілейны Мінскага раёна.

У выніку ўкаранення вынаходніцтва, рэцэптура якога трымаецца ў сакрэце, утварыліся лішкі нафтабітуму, які наватары... апрыходавалі па ліпавых дакументах як набыты свежы нафтабітум у фірмах-аднадзёнках. Як сведчаць фіктыўныя накладныя, такім чынам яны купілі самі ў сябе сваёй сыравіны аж 5 бітумавозаў па 34 тоны кожны, а затым проста недаўкладвалі яе ў гатовы асфальт.

Падзяліць 157 мільёнаў рублёў навару «інаватары» і псеўдафірмачы не паспелі, бо «ўнікальнай» рэцэптурай асфальтабетону зацікавілася пракуратура...




## Мільярд туды, мільярд сюды…

**Гомельская вобласць.** Жлобінскае прыватнае прадпрыемства, якому належаць 11 гандлёвых павільёнаў і 3 кавярні, умудрылася ў 2011 годзе прапусціць, як кажуць, міма касы каля 2 мільярдаў рублёў. Але пільныя кантралёры дапамаглі навесці парадак з лічбамі — і ў выніку даналічылі ў дзяржбюджэт звыш 900 мільёнаў рублёў падаткаў і збораў, улічваючы пені.

Прыватная каса прыкметна апусцее. Але гаспадароў прадпрыемства хвалюе іншае: у адносінах да іх узбуджана крымінальная справа...

***По матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***



# Як стала вядома...

## Ідзе следства…

Намеснік старшыні Лунінецкага райвыканкама С. Бойка прачытаў сатырычны матэрыял «Лом і «аблом» («Вожык» № 4 за 2012 год) і пацвердзіў, што Упраўленнем Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю па Брэсцкай вобласці ў адносінах грамадзян, якія займаліся нарыхтоўкай і збытам лому чорных і каляровых металаў на тэрыторыі Лунінецкага раёна, узбуджана крымінальная справа за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць. У цяперашні час Упраўленнем следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па Брэсцкай вобласці праводзяцца следчыя дзеянні.



## Расклад руху аўтобусаў стане для пасажыраў бліжэй

Генеральны дырэктар камунальнага транспартнага ўнітарнага прадпрыемства «Мінсктранс» Л. Папянок уважліва вывучыў крытычны матэрыял, змешчаны ў чацвёртым нумары часопіса ў рубрыцы «Вожыку» пішуць...», і адзначыў, што расклад руху аўтобусаў у памяшканні аўтавакзала «Маскоўскі» выраблены і размешчаны згодна праектнай дакументацыі, распрацаванай інстытутам «Мінскпраект». Тым не менш, будзе разглядацца пытанне аб змяненні формы, а таксама месца размяшчэння раскладу руху аўтабусаў на аўтавакзале «Маскоўскі».

Расклад руху аўтобусаў можна дадаткова паглядзець на сайце дзяржаўнага прадпрыемства «Мінсктранс», у інфакіёсках АСБ «Беларусбанк» у г. Мінску, у даведачнай службе філіяла «Мінскі аўтавакзал». Акрамя таго, у зале чакання і на перонах адпраўлення ўстаноўлены электронныя табло з указаннем інфармацыі аб бягучых адпраўленнях аўтобусаў.

А вось выраб і распаўсюджанне друкаванага варыянта раскладу руху аўтобусаў немэтазгодныя з-за значнай колькасці аўтобусных маршрутаў і частых змен у іх.



# Чатыры сляпыя душы

З сядзячых, стаячых, вісячых і лятучых месцаў у вагоне метро бабулі дасталося вісячае. Павісла яна, як на тое ліха, над чатырма маладымі, але надта нездаровымі хлопцамі. Яны сядзелі якраз на тых месцах, дзе значылася «Для інвалідаў». Дарэчы, дзіўна, але чаму так часта, нашмат часцей за жанчын, слепнуць мужчыны?

Бабуля вісела, а яны, гаротнікі, сядзелі... Тыя двое, што туліліся якраз насупраць бабулі, былі бездапаможна хворыя. Пазіраючы невідушчымі вачыма некуды ўдалячынь, адзін слухаў музыку, а другі цiскаў кнопкі ў мабільніку. Астатнія двое пачувалі сябе лепш: адзін сляпы чытаў, відаць, вельмі цікавую (вачэй не адвесці!) кнігу, а другі засяроджана вывучаў аб'явы.

Не сляпая жанчына, якая сядзела насупраць іх у далёкім кутку лаўкі, падхапілася, каб саступіць бабулі месца, але тая адмоўна пахітала галавой. Відаць, пабаялася, што не дойдзе па хісткім вагоне да сядзячага месца.

Калі на станцыі поезд спыніўся, сляпыя дружна падняліся і, на дзіва лоўка для сляпых абыходзячы бабулю, выйшлі на перон. Шкада, але гэтыя маладыя людзі, здаровыя фізічна, сапраўды аказаліся невідушчымі. Чатыры сляпыя душы...

**Юлія ЛАЎРАНКОВА,**
*студэнтка III курса Інстытута журналістыкі.*



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.



# Стоўпатварэнне па-гомельску

Фельетон

Усім вядома біблейская гісторыя пра тое, як Бог надзяліў будаўнікоў Вавілонскага стаўпа рознымі мовамі. Так узнік першы ў гісторыі цывілізацыі даўгабуд, які, у рэшце рэшт, скочыўся поўным крахам праекта.

Гомель — не біблейскі горад, ды і не Вавілонскую вежу будавалі, а звычайныя жылыя дамы. А вось непаразуменняў і даўгабудаў хапіла б не на адну гісторыю.

Летась у горадзе былі ўведзены ў эксплуатацыю 43 дамы. Выдатна! Але палова з іх будавалася з перавышэннем нарматыўных тэрмінаў ад аднаго месяца да паўгода. Дрэнна!.. Таму ва ўнітарнае прадпрыемства «Упраўленне капітальнага будаўніцтва Гомельскага




гарвыканкама», якое павінна займацца скаргамі і зваротамі грамадзян наконт нездавальняючай якасці будаўніцтва, пасыпаліся скаргі на будаўнікоў.

— Нічога страшнага, — супакойваў заказчыкаў дырэктар гэтага прадпрыемства Ігар Адарчанка. — Трэба пацярпець: самі разумееце... А квадратныя метры, рана ці позна, знойдуць свайго законнага гаспадара!

Праўду казаў І. Адарчанка. Рана ці позна, але дамы ўсё ж уводзіліся ў эксплуатацыю. Але з такімі недаробкамі, што ва Упраўленне капітальнага будаўніцтва зноў пасыпаліся сотні скаргаў.

— Замучаюць нас гэтымі скаргамі, — цяжка ўздыхаў дырэктар. — Зусім жыцця не даюць! А мы іх возьмем ды адашлём тым, хто ў тых недаробках вінаваты.

Сказана — зроблена. І звароты і скаргі грамадзян цэлымі пачкамі накіроўваліся ў падрадныя арганізацыі. Маўляў, падрадныя арганізацыі вінаватыя — няхай і разбіраюцца. Таму з 1145 зваротаў грамадзян, якія былі накіраваны летась на адрас Упраўлення капітальнага будаўніцтва і якія яму належала непасрэдна разгледзець, 1079 былі пераадрасаваны падрадчыкам!

— Вось гэта эфектыўнасць! — паціраў рукі І. Адарчанка. — Гэта ж колькі часу для іншай работы вызваляецца! Даўно трэба было ад гэтых скаржнікаў адмахвацца, як ад восеньскіх мух.

І ўжо ў студзені—лютым 2012 года з 316 зваротаў грамадзян было перанакіравана 266. Нібыта і не было Указа Прэзідэнта РБ ад 15.10.2007 № 498 «Пра дадатковыя меры па рабоце са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб». Нібыта і не прызначалі ва Упраўленні капітальнага будаўніцтва адказных за рэалізацыю гэтага Указа — галоўнага інжынера Андрэя Яблонскіса, намесніка па будаўніцтве Аляксандра Шышкевіча і начальніка вытворчага аддзела Уладзіслава Семчанку.

— Нам што? Мы сваю работу вядаем, а аконныя блокі мяняць ці балконы падмазваць, якія працякаюць, мы не палезем. Хто будаваў, той няхай і рамантуе, — ледзь не хорам адказвалі яны.

Таму дагэтуль (дадзеныя на май 2012 года — ***А. Г.*** ) адлежваецца недзе ў прыцемках шуфляды зварот аб замене аконнага блока ў кватэры № 48 дома № 4 у мікрараёне № 22 г. Гомеля. І не разгледжаны ён (хоць, пэўна ж, зарэгістраваны) яшчэ з 26 мая 2010 года! Два гады ніхто з адказных работнікаў пальцам не варухнуў, каб даць ход справе!

Калі работнікі прадпрыемства практыкуюць такія адносіны да зваротаў грамадзян, то ці варта здзіўляцца фактам нічым не апраўданай грубасці да саміх скаржнікаў? Урэшце дайшло да таго, што калі ў Гомельскі гарвыканкам звярталіся грамадзяне з крыўдамі на Упраўленне капітальнага будаўніцтва, то адказы рыхтавалі супрацоўнікі не гарвыканкама, а... самога ўпраўлення!

А яшчэ начальнікі вытворчага і жыллёва-інвестыцыйнага аддзелаў Упраўлення капітальнага будаўніцтва вырашылі не адказваць на тэлефонныя званкі. Набірай іх службовыя нумары хоць цэлы рабочы дзень — ні слыху ні дыху. А яны тым часам сядзяць на рабочых месцах ды пасміхаюцца: хоць з гарматы страляй!

— Мае нервы не жалезныя, — разводзіў рукамі начальнік вытворчага аддзела У. Семчанка. — Надакучылі мне гэтыя скаржнікі!

— І я не стожыльная, — падтаквала яму начальнік жыллёва-інвестыцыйнага аддзела Антаніна Зелянок. — Моду ўзялі — па тэлефоне скардзіцца! Калі табе трэба што — будзь чалавекам, прыйдзі, пастой у чарзе, пачакай... Можа, і прыму тады.

Калі людзі не могуць дазваніцца, яны пачынаюць пісаць. Таму нядзіва, што паўторныя скаргі раслі як на драждажах! За 2011 год іх колькасць перавысіла мінулагодні паказчык на 23 працэнты, а за студзень—люты 2012 — ажно на 68 працэнтаў.

Але людское цярпенне лопнула — і скаргі паляцелі вышэй. Справай мусілі заняцца супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнага кантролю, якія выявілі і больш сур'ёзныя парушэнні. Запахла крыміналам...

Дык няўжо будаўнікі, чыноўнікі і простыя грамадзяне не змогуць знайсці агульную мову? Няўжо так складана пабудаваць дом якасна і здаць яго ў тэрмін? Няўжо і цяпер ляжыць недзе ў прыцемках шуфляды зварот аб замене аконнага блока ў кватэры № 48 дома № 4 у мікрараёне № 22 г. Гомеля?..

**Алесь ГАРЧЫЦА.**



УСМЕШКІ

### У рэкламным бюро

— Спадарыня, аб'явы яшчэ прымаеце?
— Няма ўжо месца!
— А калі я скажу, што вы — прыгажуня?
— Гэта не дапаможа.
— Шчыра кажу, што вы — сапраўдная прыгажуня!
— Ну, давайце вашу аб'яву, паспрабую паспрыяць.



Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

### Аб'ява

**Лекую ад усяго**

З першай спробы вылечваю хваробы, якія ёсць у жывёл і люду і — тыя, што яшчэ будуць. Замест шэпту бубню на вуха — і адразу здаравее бруха, а таксама астатнія шлункі. Гарантыя першага гатунку. Па вёсках шаманю позна і рана з братам Раманам. Руслан Шаман.

**Прачытаў Лявон АНЦІПЕНКА,** *г. Шклоў.*



## Навіны з МУС: матай на вус

### Лас-Вегас ≠ Мазыр

***Мазыр.*** На славу Лас-Вегаса — сусветна вядомага горада гульнявага бізнесу замахнуўся мінчанін, заснавальнік і дырэктар гандлёва-будаўнічага прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Р». Незаконна атрымаўшы адпаведную ліцэнзію, ён адкрыў у Мазыры гульнявы клуб.

Цэлы год даверлівыя мазырцы кармілі аўтаматы грашовымі купюрамі і спадзяваліся, што слава Мазыра як новага Лас-Вегаса расце і расце. На самай справе рос толькі незаконны прыбытак гаспадара клуба. За год ён вырас да сумы звыш 4 мільярдаў 700 мільёнаў рублёў!

Славу Лас-Вегаса Мазыр так і не атрымаў. А гульні дырэктара прадпрыемства «Р» з дзяржавай бясслаўна закончыліся: у адносінах да яго ўзбуджана крымінальная справа.



### На суд «інквізіцыі»

***Смаргонскі раён.*** У вёсцы Ветхава міліцыянеры затрымалі мясцовага «алхіміка», жыхара г. Смаргоні, які займаўся вырабам напою вечнай маладосці. Чаму ад 170 літраў гэтага напітку патыхае звычайнай сівухай, эксперыментатар патлумачыць не змог.

Таму 5500 літраў брагі, што знайшлі ў хаце, знішчылі, а справу «алхіміка» адправілі на разгляд «інквізіцыі».

### Шэршэ ля... «бумер»

***Гомель.*** Як вядома, нельга давяраць іншаму машыну і дзяўчыну. Адзін жа малады і нявопытны гамяльчанін умудрыўся даверыць першае — другому. Заехаў на сваім «бумеры» па сябра ў гульнявы цэнтр і папрасіў спадарожніцу пачакаць пару хвілін. Але загуляўся...

Калі дзяўчыне надакучыла чакаць, яна ляснула дзверцай і пайшла. А машына засталася. І хоць «бумер» меў непрэзентабельны выгляд, наяўнасць незамкнёных дзверцаў, ключа ў замку запальвання і мабільнага тэлефона на сядзенні зрабілі сваю цёмную справу.

Кажуць, што цяпер малады і нявопытны гамяльчанін марна шукае «бумер», мабільны тэлефон і — страчанае каханне...



### Дахапаўся

***Магілёўская вобласць.*** Развіты хапальны рэфлекс не даў жыхару г. Горкі прайсці міма мужчыны, што стаяў каля магазіна «Каштан» па вуліцы Вакзальнай і трымаў у руках жончыну сумачку.

Зламысніка-хапуна знайшлі хутка, бо судзілі за крадзяжы не раз. А вось як хутка ён зможа выйсці з турмы, невядома: яму «свеціць» да шасці гадоў зняволення.

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***




Праўду людзі кажуць: «Век зжыў, а розуму не нажыў». З гадамі і я многае перастаў разумець. Не ўсё да мяне даходзіць з таго, што чую па радыё ці бачу па тэлевізары.

Радыёкропка ў мяне на кухні. Зручна: і слухаеш, і курыш. Ды і старая не крычыць, бо дым на хату не ідзе. Люблю вельмі віншаванні слухаць... Словы добрыя юбілярам прысвячаюць, песні ў іх гонар спяваюць. Радуюся, калі сустракаюцца знаёмыя прозвішчы маіх аднагодкаў і старэйшых за мяне людзей. Дасць Бог, і мне пашчасціць пажыць яшчэ на гэтым свеце. А вось сэнс песень, на жаль, не заўсёды разумею.

Часта чую Надзею Кадышаву. Прыгожы ў яе голас. Не горшы, чым у нашай Гэлі «Русланавай». У нас так Гэлю Міхасёву клічуць. Яна, як крыху падап'е, дык заўсёды «Валёнкі» спявае. Ды так хараша! Старыя кабеты нават слязу пускаюць.

Дык растлумачце мне, людцы добрыя, чаму гэта Надзея так мужыка свайго ганіць? Ну, затрымаўся ён у дарозе. З кім не бывае? Дзякуй богу, што тая «любушка» з хаты не выгнала і грошы з кішэні не выцягнула. А сама Надзея што выраляла? Напілася так, што дадому не змагла дайсці! А з кім гэта яна піла ў тым садзе? Вядома, што не адна. І хто ведае, якія яна, нецвярозая, выкрунтасы вырабляла? Заўсёды ў нашых баб толькі мы, мужыкі, вінаватыя!

Нярэдка перадаюць песню «Сорвали розу в семнадцать лет». Хлусня! Дзе гэта яны знайшлі такі сорт руж, якія сямнаццаць гадоў цвітуць?! Некалі ўкраў я ў Ганцавічах з клумбы адзін парастак гэтай калючкі. Кажуць, крадзенае добра расце. А тая ружа праз два гады ўвогуле здзічэла.

А што цяпер па тэлевізары паказваюць? Сусед мой, смаркач яшчэ, а ўжо прыбіў да хаты нейкую талерку. Вядома, чым яму заняцца, калі нідзе працаваць не хоча? Толькі тэлевізар глядзець.

Кліча мяне нядаўна: «Зайдзі, дзед, хоць свет пабачыш». Прытушыў я цыгарэту, пайшоў. Галёшы яшчэ на ганку зняў, прымасціўся на крэсла каля дзвярэй і пачаў глядзець у той тэлевізар. Людцы вы мае, як хораша! Мора шуміць, кветкі – вачэй не адвесці, а людзі ўсе якія вясёлыя!..

Але неяк няёмка было доўга сядзець у чужой хаце. Сабраўся сыходзіць, а сусед затрымаў: «Посиди, Петрович, пока я тут с одним бакланом по трубе побазарю. Потом квакнем». І дзе ён толькі такіх слоў набраўся? Па якой трубе, як гэта квакнем? Дый базару ў нас ніколі не было. Муку, праўда, возяць, дык яе з машын прадаюць. А бакланаў у рыбгасе страляюць, каб яны рыбу не елі. На гэта нават патроны дармовыя даюць.

Выйшаў ён на двор, а пульт мне пакінуў. Я на ім кнопачку нейкую націснуў. Бачу, маладыя хлопец і дзяўчына цалуюцца. Ну, думаю, каханне ў іх. Сам маладым нядаўна быў. А там!.. Хацеў тую брыдоту выключыць, аж сусед у хату заходзіць і рагоча: «Ну ты, дзед, малаток! Вунь цябе на што пацягнула!»

А каб цябе чорт бізуном пацягнуў! Выбег я з хаты як ашпараны. Нават галёшы на ганку забыўся.

Байструк! Двоечнік! Смаркач! Прыбег да сябе на кухню, закурыў той «бычок», што пакінуў. Уключыў радыё, а адтуль як заспявае нехта: «Самое сладкое место на теле будем искать с тобой в нашей постели!» Цьфу, каб вы спрахлі!

Не разумею я такога, людцы добрыя, і разумець не хачу. Позна мне ўжо. А тое, што некаму такое чуць і глядзець рана, нікога, відаць, не хвалюе...

**Аляксей ГАЛАСКОК,**
*г. Ганцавічы.*

## Чыстая праўда

— Галя, гэта праўда, што расстанне ўмацоўвае каханне?
— Безумоўна! Калі мой Пеця едзе на заробкі ў Маскву, у мяне заўсёды мацнее пачуццё да суседа Аліка.

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# ВІНШУЕМ ПЕРАМОЖЦАЎ!

## Завершаны «юбілейны» конкурс

Рэдакцыя часопіса «Вожык» і Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі падвялі вынікі конкурсу, прысвечанага 70-годдзю адзінага дзяржаўнага выдання сатыры і гумару. Вынікі парадавалі і, канешне, павесялілі арганізатараў конкурсу. На разгляд журы, сустаршынямі якога з'яўляліся галоўны рэдактар часопіса Юлія Зарэцкая і старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, паступіла больш за 70 конкурсных матэрыялаў. Прыемна, што сярод удзельнікаў — самыя розныя катэгорыі нашых аўтараў і чытачоў: пенсіянеры, студэнты, вучні, хатнія гаспадыні, работнікі сферы адукацыі, культуры і нават... прадпрымальнікі. Найбольшую актыўнасць праявілі якраз не прафесійныя пісьменнікі, а самадзейныя аўтары. А вось у літаратурнай віктарыне па-за канкурэнцыяй былі работнікі бібліятэк. Некаторыя паказалі проста энцыклапедычную дасведчанасць у гісторыі «Вожыка» і яго славутага папярэдніка — газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Пераможцы віктарыны даслалі цудоўна афармленыя матэрыялы, сцэнарыі праведзеных «вожыкаўскіх» мерапрыемстваў.

У вялікай зале Дома літаратара ва «ўрачыста-гумарыстычнай» абстаноўцы адбылося не толькі падвядзенне вынікаў конкурсу, а сапраўднае свята «Вожыка». На вечарыну прыйшлі ўдзельнікі і пераможцы конкурсу, шматлікія чытачы і сябры часопіса, пісьменнікі-гумарысты. Звычайна «Вожык» мае справы з допісамі, а тут якую асалоду атрымаў ён ад пачутага! «Вожык» віншавалі, уручалі яму адпаведныя падарункі з гумаркам і прыдумкамі, дзякавалі за нястомнасць, няўрымслівасць, прыязнасць да аўтараў, пастаянныя сустрэчы з чытачамі. «Экалагічна» чыстыя падарункі, у тым ліку крапіву ў вазоне, уручыў разам з жартоўным гуртом «Смехаўё» начальнік аддзела культуры Любанскага райвыканкама, «па сумяшчальніцтве» актыўны ўдзельнік гурта Васіль Каткавец. А вядомы пісьменнік, аматар «гумарыстычнага» жывапісу Сяргей Давідовіч падарыў «Вожыку» карціну — абагульнены партрэт вожыкаўца за працай.

Вядома ж, «Вожык» не застаўся ў даўгу. Юлія Зарэцкая і Міхась Пазнякоў уручылі Ганаровыя граматы РВУ «Літаратура і Мастацтва», Дыпломы Саюза пісьменнікаў Беларусі, адмысловыя прызы і падарункі не толькі пераможцам, прызёрам конкурсу, але і гасцям-выступоўцам, у тым ліку гурту «Смехаўё» і выдатнай выканаўцы гумарыстычных твораў, ветэрану Вялікай Айчыннай вайны Г. Клімаш са Стоўбцаў. Прысутным так спадабалася яе выступленне, што ў зале пачуліся воклічы «Брава»! Акрамя таго, амаль кожны выступоўца быў «адзначаны» фірменнай вожыкаўскай эпіграмай.

З цікавасцю і добрым настроем прымалі ўдзельнікі вечарыны выступленні пераможцаў, прызёраў літаратурнага конкурсу і віктарыны В. Рэчыца, Л. Багдановіч, А. Дзегцярову, Л. Полазаву, а таксама паэтаў-гумарыстаў М. Чарняўскага, М. Шабовіча, У. Ермалаева, У. Мазго, В. Сакалову, Д. Пятровіча.

З задавальненнем даводзім да ведама чытачоў прозвішчы пераможцаў і прызёраў конкурсу.

***Пераможцы ў намінацыі «Літаратурны конкурс»:***

**1 месца** — Віктар Трафімавіч РЭЧЫЦ, *г. Івацэвічы*; **2 месца** — Людміла Іванаўна ЮШЫНА, *г. Гомель*; **2 месца** — Лёля Уладзіміраўна БАГДАНОВІЧ, *г. Барысаў*; **3 месца** — Таццяна Анатольеўна ДЗЕМІДОВІЧ, *г. Брэст*.

***Пераможцы ў намінацыі «Тэмы для малюнкаў»:***

**1 месца** — Міхаіл Міхайлавіч СТЭФАНЕНКА, *г. Магілёў*; **2 месца** — Зоя Максімаўна НАВАЕНКА, *Глыбоцкі раён, г. п. Падсвілле*; **3 месца** — Валянціна Уладзіміраўна ГІРВЕЛЬ, *г. Паставы*.

***Пераможцы ў намінацыі «Літаратурная віктарына»:***

**1 месца** — Лідзія Васільеўна ПОЛАЗАВА, *г. Наваполацк*; **2 месца** — Аксана Валер'еўна ДРАЧАН, *г. Узда*; **3 месца** — Аршанская цэнтральная раённая бібліятэка; **3 месца** — Ларыса Віктараўна КАВАЛЬ, *г. Орша*.

Акрамя таго, 13 удзельнікаў конкурсу адзначаны заахвочвальнымі дыпломамі і граматамі.

З гэтага нумара «Вожык» пачынае друкаваць лепшыя з дасланых на конкурс твораў.

### І месца

### Віктар РЭЧЫЦ

### Зязюліна заява

*Байка*

Жыла Зязюля у ляску.
Жыла — не ведала раскошы:
Гнязда свайго не мела, грошай,
Была, як кажуць, пры суку.
Каб ёй налічвалі працэнты,
На нечаканы крок пайшла:
У суд на мужа падала,
Маўляў, не плаціць аліменты.
Заяву Сойка прачытала,
Лагодна ў скаржніцы спытала:
— А колькі маеце дзяцей?
— Я... знесла яек паўдзясятка.
Выводзіліся птушаняткі...
Напэўна, кожнае расце...
— Напэўна? — уздыхнула Сойка. —
Дзяцей не гадавалі вы.
Паразітызм тут гнездавы:
Падкладвалі даволі лоўка
Ў чужыя гнёзды ў лесе яйкі.
То аліментаў — аніякіх
Наадварот, ужо вы самі
У даўгавой сядзелі б яме,
Калі б вам іскі прад'явілі
Суседзі, што дзяцей кармілі.
Зязюля, як усё пачула,
За дзверы хуценька шмыгнула.

---

Шкада дзяцей, а не матуль,
Падобных вельмі на зязюль.
Хачу сказаць такім не па сакрэту,
Што дзеці — не разменная манета.



## Сарамлівая ўнучка

*Міні-фельетон*

Бабуля клыгае па вуліцы
У невялікім гарадку.
Ніхто да бабкі тут не туліцца,
Не падтрымае за руку.

Наперадзе дзяўчына вабная –
Упэўнены, імклівы крок.
Каленкі – ой, далёка бабіным,
На белы свет глядзіць пупок.

Не здагадаешся, што родныя.
Два чалавекі – два жыцці.
Не хоча з бабкай поруч моднае
Дзяўчо па вуліцы ісці.

Саромеецца, сексапільнае,
Яе хады, яе маршчын...
Аднак заўважыць вока пільнае
Знаёмых хлопцаў і мужчын.

Калі прагульваецца з гэткімі,
Пад ручку іх заўжды бярэ.
Дыміць ахвотна цыгарэткамі,
Ёй падавайце кабарэ.

Занята справамі амурнымі,
Пакуль на цела попыт ёсць.
Не ведае дзяўчо гламурнае:
Павінна жыць не толькі плоць...



## II месца

## Людміла ЮШЫНА

### Прыпеўкі

Разгарні жа, дружа Лёнік,
Галасісты свой гармонік,
Рэзні польку ад душы,
Хай паскачуць бульбашы!

* * *

Прыйшоў дзед ка мне гуляць,
На бутэльку косіцца.
Не паспеў пацалаваць,
А ўжо ў ложак просіцца!

* * *

Усміхайцеся, дзяўчаты,
І цалуйцеся часцей,
Павыводзяцца нітраты
І хваробы ўсе з касцей.

* * *

Я танцорка і пяюха,
Гаспадыня й весялуха.
Ідзі ў сваты, Апанас,
Бо мне замуж самы час.

* * *

Шмат пабачыў полек, немак
За сваё жыццё Кузьма,
Але лепей нашых дзевак
Усё адно нідзе няма.

* * *

Дзед схадзіў на супер-шоу,
Ачмурэў ад вар'етэ:
Адняло старому мову
Цераз стрынгі й дэкальтэ.

* * *

Меней, мілачка, хлусі,
Бо і так мне ясна:
Як і колькі ты ясі
Па фігуры бачна.

* * *

Выракуся самагонкі,
Хай зайздросцяць скромніцы:
Завяду чатыры жонкі
І дзве палюбоўніцы.

* * *

Мне вусаты кум Васіль
Не дае маркоціцца.
Як убачу яго брыль –
Усё на мне калоціцца!

* * *

Наша цётка Лізавета –
Маладзіца супер-клас:
Саладзей, чым «Амарэта»,
Гарачэйшая за прас.

* * *

Наш Мікіта п'е з карыта,
І штаны прапіў, і прас,
Толькі сіта не прапіта,
Бо пакінуў у запас!

* * *

Пойдзем, любы Васілёк,
Як сцямнее, ў халадок:
Цалавацца ў халадку –
Як пакаштаваць мядку.

* * *

Да мяне прыходзь, Антось,
І ў чацвер, і ў сераду,
Больш нічога не прынось –
Толькі цацку спераду.



* * *

Мілка пудрыцца мукой
І сама як булка.
Мне з пампушкаю такой
Спаць будзе не мулка.

## II месца

## Лёля БАГДАНОВІЧ

### Ахвяра кахання

Як толькі сонейка прамень
Пакліча ў каляровы ранак,
Разбудзіць песняю мяне
Сусед блакітнавокі Франак.
Ён мае рыжыя вусы
І на цымбалах добра грае.
Ды за яго ўсе валасы
Мне Тэкля ўраз павыдзірае,
Бо дыхае яна даўно
Да хлопца гэтага няроўна...
Прывабіў так мяне мужык –
Без Франака жыцця не бачу!
Што валасы? Куплю парык –
І гэтым вырашу задачу!

### Забытыя пацалункі

Дождж пасыпаў, як гарох –
Уцякайма ў сенцы!
Цалаваў мяне Цімох
Нават у каленцы.
Шлюб узялі, сталі жыць.
І Цімох «удалы»
На ўсю моц цяпер крычыць:
– Смаж, Ганулля, сала!
Смажу, мыю і мяту –
Не знайсці ратунку.
А Цімоху, як кату,
Не да пацалункаў.
Толькі вусны аблізаў,
Блін даеўшы з салам,
Тут жа бабку заказаў –
Падалося мала.
Як прачнуўся – згаладаў,
Зноў садзіцца есці,
А калісьці цалаваў
Мо разоў па дзвесце...
Што ж цяпер – ні даць ні ўзяць,
Колькі б ні прасіла.
Як не будзе цалаваць,
Дык спішу на мыла!



*Працяг у наступным нумары.*





Паляжаўшы колькі часу, працягваю руку да выключальніка. Паглядзеў на будзільнік: тры гадзіны ночы. Значыць, ужо хвілін сорак б'е па мазгах тое шчоўканне. Засек на секундамеры перыядычнасць цікання. Цік! Паўза. Цік! Паўза. Высветлілася, што гукі паўтараюцца праз дваццаць секунд. Адчуванне, як быццам табе цвік забіваюць у лоб...

**Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ**

# «Нячысцік»

Верыш і не верыш ва ўсялякія анамальныя з'явы...

Я змучыўся. Не мог заснуць: даймаў радыкуліт. Цела праразаў рэзкі боль, як толькі спрабаваў павярнуцца з боку на бок. Гадзіны праз дзве пасля поўначы задрамаў. Ды паспаць не ўдалося: пачулася ціканне. Не такое, спакойнае, прыемнае, як ціканне гадзінніка, а рэзкае, адрывістае. Хацеў уключыць святло, пацягнуўся ўжо да выключальніка, але кальнула ў баку, і я застаўся ляжаць на спіне. Цiканне, ці, хутчэй, шчоўканне над галавой праз нейкі момант паўтарылася. Потым – зноў.

Калі табе не даюць спаць, міжволі пачынаеш прыслухоўвацца да таго, што творыцца навокал. Учора ноччу былі падобныя гукі, але я заснуў, не звяртаючы на іх асаблівай увагі: колькі розных гукаў можна пачуць ноччу ў вялікім горадзе! Але што ж напамінаюць гэтыя, адрывістыя? Свіст сініцы? Не, птушыны свіст прыемны, радасны, а гэты – трывожны, заснуць немагчыма.

А ціканне з паўзамі ўсё працягваецца. Цік!.. Цік!.. Заснуць немагчыма. Прайшло з паўгадзіны, як запаліў святло. Каб адагнаць непрыемнае адчуванне, пераадольваючы боль у спіне, падняўся. Дзе ж цікае? Падышоў да шафы, якой перагароджана спальня. Цяпер зацікала над галавой. Іду далей – да акна, пагляджу ў двор, застаўлены рознымі іншамаркамі. Можа, якую незвычайную сігналізацыю паставіў хто-небудзь на аўтамабіль? Не, з вуліцы тых гукаў не чуваць.

Цік!.. Цік!.. Стала ніякавата. Успомніліся трылеры пра душы памерлых.

– Ці чуеш гукі? – пытаюся ў жонкі, якая спіць у другім пакоі.

– Чую.

– Калі чуеш, чаму нічога не пытаешся?

– Я думала, што ты нешта са сваімі прыборамі робіш.

Прыборы... Якія ж прыборы могуць цікаць? Цік!.. Цік!.. Ніхто не паверыць, калі раскажу, што адбывалася ноччу ў нашай кватэры. Трэба запісаць на дыктафон. Але істота з паралельнага свету можа сцерці запіс. Таму вырашыў падстрахавацца – прадубліраваць на лічбавы. З яго нячысцік-дух, ці Барабашка (як я яго назваў у думках), спадзяюся, не сатрэ інфармацыю?

Можа, усё-такі не Барабашка, а якая-небудзь новая парода цвыркуноў так шчоўкае, з зайздроснай перыядычнасцю? А калі, не дай божа, усё ж нячыстая сіла завялася? Што рабіць? Папрасіць якога-небудзь святара, каб асвяціў кватэру? Ці звязацца з Акадэміяй навук? Павінны ж там быць вучоныя – паляўнічыя на прывідаў?

Моташна на душы, а «кватарант» не сунімаецца. Цік! Цік! Цік! Спалоханая жонка пачала дапякаць:

– Ходзіш, грэшнік, па ўсялякіх баптысцкіх цэрквах – вось нячыстая сіла і прычапілася. Дамавік завёўся на нашу галаву!

– Пры чым тут цэрквы? – з трывогай адбіваўся я, каб супакоіць не толькі жонку, але і сябе. – Не на царкоўнай жа службе, а на семінары па экалогіі быў, а ён у памяшканні баптысцкай царквы праходзіў.

Вядома, грэшнік я. Але стараюся грашыць як мага менш, рабіць толькі добрыя справы. Вось і цяпер змагаюся, каб прыроданенавіснікі не выпільвалі дрэвы ў двары. І людзям стараюся памагчы. Дык хіба я такі ўжо вялікі грэшнік, каб у мяне завёўся дамавік?

Хутчэй бы раніца. Добра яшчэ, што не лётаюць па пакоі розныя прадметы. А жонка са страху ўсё бубніць і бубніць...

Як марудна цягнецца час! Ужо больш чым паўтары гадзіны цікае Барабашка. Трэба паспрабаваць наладзіць з ім кантакт. Магчыма, ён не такі ўжо і дрэнны? Папрасіў, каб цікаў цішэй. Здалося, што паслухаўся. Значыць, кантакт з ім магчымы! Ура! Разам са страхам з'явілася і цікаўнасць. Можа, дамавічок якім-небудзь чынам дапаможа выдаць маю кніжку, якую выдаўцы марынуюць ужо некалькі гадоў?

Стомлены, а палове шостай заснуў. Прачнуўся гадзіны праз тры і адразу патэлефанаваў знаёмаму. Паднёсшы дыктафон з запісам да тэлефоннай трубкі, даў паслухаць. Ён параіў абавязкова пазваць святара і асвяціць кватэру...

Праз колькі дзён пачаў перабіраць рэчы і кнігі. І знайшоў-такі віноўніка перапалоху! У кардоннай скрынцы, за кнігамі, ляжаў... звычайны прыбор – аўтаномны пажарны апавяшчальнік!

Як радаваліся мы з жонкай, што пужаў нас ніякі не нячысцік, а просты электрычны прыбор!

Прайшло яшчэ некалькі дзён. Усё было ціха, спакойна. І раптам... Пераспалі шчабятаць птушкі. Здалося, нават лісце на дрэвах завяла. Завішчэў, зацікаў, загаласіў на ўсе лады мой Барабашка, як той Салавей-разбойнік з казкі пра Ільлю Мурамца, а з форткі дыхнула такім ядавітым дымам, што хоць процівагаз надзявай. Побач працуе завод...

Калі жыхары нашага раёна закрываюць форткі ад невыноснага смуроду, аўтаномны пажарны апавяшчальнік на ўсе лады б'е трывогу, сігналізуе, што недалёка завялася сапраўды страшэнная нячыстая сіла, адужаць якую не памогуць малітвы нават усіх разам узятых святароў сталіцы. Гэта пад сілу зрабіць толькі чалавеку, бо гэтага «нячысціка» стварыў ён сам...

Вернісаж



# Пятро КОЗІЧ



☺ У маім гардэробе ёсць спартыўная шапачка. Я яе з 1976 года нашу, а ёй усё зносу няма. Яшчэ і ўнукі ў ёй пафарсяць! Дасталася яна мне так. Агенцтва аўтарскіх правоў СССР арганізавала выпуск кнігі для замежных сяброў «П'янства ў СССР вачамі савецкіх мастакоў». У зборнік увайшлі і мае работы. Ганарар выдалі чэкамі, і гэтай сумы ў віцебскім валютным магазіне мне якраз на шапачку і хапіла.

☺ Сюрпрызаў у працы хапала. Аднойчы прыходзіць у рэдакцыю газеты мужчына з кульбай. Утаропіўся ў мяне злым позіркам: «Дзе Козіча ўбачыць?» «Няма яго, звольніўся», — зымправізаваў я. «А я прыйшоў яму палкай урэзаць», — без усялякіх падтэкстаў выдаў ён і, расчараваны, пайшоў.

А неяк за мной «палявала» цэлая банда толькі таму, што я незнарок закрануў чужую драму. Намаляваў у карыкатуры класічнага мужа-раганосца, які жыве па неіснуючым, як я думаў, адрасе. Пазней, калі даведаўся, жахнуўся: ёсць такі адрас у нашым горадзе! І па ім, як на злосць, жыве той раганосец!..







☺ Жанчына ў маім жыцці заўсёды на п'едэстале гонару! Яна — апора сям'і, што адлюстравана і ў маіх малюнках. Мужчына ж, які згубіў інтарэс да жанчыны — труп.





☺ Быў час, калі я цесна супрацоўнічаў з выдавецтвам «Медыцынская літаратура». Афармляў вясёлымі малюнкамі працы сур'ёзных эскулапаў. І ўрачы, і пацыенты — усе чытачы лічылі, што малюнкі ўдала дапаўняюць кнігу, нават калі яна называецца «Рэўматоідны артрыт»... Я рады, што мая медыцына мяне беражэ і натхняе.




☺ Лепшы аўтамабіль для мяне — двухкалёсны. Урач неяк параіў мне прагулкі перад сном... Купіў веласіпед, пракаціўся — клас! Затое ўвесь горад вылупіў вочы, калі ўбачыў мяне на веліку. Вырашылі, што я з'ехаў з глузду, здзяцінеў. Але я не звяртаў на гэта ўвагі. Горш было, што мяне тройчы збілі... Пасля чарговай аварыі па настойлівых просьбах жонкі «Не хачу быць удавой!» давялося развітацца з двухкалёсным сябрам.






☺ Адно з прафесійных захапленняў — афармленне кніг. Першымі былі невялікія кніжачкі з серыі «Бібліятэка «Вожыка». Затым — пайшло-паехала... Сам люблю чытаць фантастыку ці гістарычную літаратуру. Я ж некалі гісторыю выкладаў! Так што інтарэс прафесійны.

☺ ☺ ☺

☺ Аднойчы мне даручылі намаляваць сяброўскія шаржы на калег, рыхтаваўся юбілейны нумар выдання. Калі людзі ўбачылі маю работу, рэакцыя была як у кнізе Носава пра Нязнайку. Нечы партрэт — «Ой, як здорава!», свой уласны — «Жах!» Потым аб'ядналіся ў меркаванні: «Ён нас псуе». Рэдактар сказала: «Я дазваляю кожнаму выправіць сябе як хто захоча». І я зразумеў: мастацкі дар — гэта пакаранне. Але іншага шляху ў мяне няма...

*Паводле кнігі «Белорусы смеются», Мн., 2006.*



*Жадаю поспехаў!*

*Вожык.*






Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




*Гісторыйка*

Адбылося гэта ў 60-х гадах мінулага стагоддзя. У той час актыўна змагаліся з такімі негатыўнымі з'явамі на сяле, як п'янства і самагонаварэнне.

Новаму галоўнаму інжынеру МТС Сцяпану Кухарчыку трэба было выступіць на гэту тэму ў суседнім калгасе «Новы шлях». Жонка Лізавета, медсястра па адукацыі, дала пачытаць мужу спецыяльную брашуру, правяла інструктаж. Кінамеханік Аляксей Сарока падрыхтаваў для паказу пасля лекцыі кінастужку «Два бойца».

Да пачатку сходу вялікая хата была запоўнена людзьмі. Прывітаўшыся, Сцяпан Пятровіч асцярожна пачаў лекцыю:

– Таварышы! У кожнага народа ёсць многа добрых традыцый. Нямала іх і ў нашых людзей. Але ад асобных звычаяў трэба адракацца. Да іх адносіцца распіццё спіртных напояў. Гэта шкодная звычка, таварышы.

Вяскоўцы паблажліва заўсміхаліся, нехта нават прысвіснуў.

– Так-так, – павысіў голас лектар. – П'янства – гэта прычына цяжкіх захворванняў печані, сур'ёзны вораг сардэчнай мышцы і нервовай сістэмы, а таксама дзейнасці галаўнога мозга, тормаз для работы. Яшчэ яно дрэнна ўздзейнічае на сумеснае пражыванне мужа і жонкі.

Жанчыны згодна заківалі галовамі. Затым галоўны інжынер нагадаў слухачам, што некаторыя «ўмельцы» настойваюць самагонку на тытунёвым зеллі і нават курыным памёце. Гэта ўвогуле смяротна небяспечна для жыцця.

Дзед Нічыпар, які спачатку ўважліва слухаў лекцыю, неўзабаве стаў торкаць носам. Яго лазовыя лапці-хадуны распаўзліся ў бакі.

Убачыўшы гэта, Сцяпан Пятровіч разышоўся і грукнуў кулаком па трыбуне:

– Самагонка павінна быць зжыта!

Дзед Нічыпар уздрыгнуў. Затым трасянуў сівой галавой і закрычаў:

– Знае справу інжынер! Лепшая самагонка – з жыта! А ў добрага майстра і з цукру ды бульбы не горшая атрымліваецца. І п'ецца лёгка!

Хата дружна зарагатала, ажно заміргала лямпачка пад столлю. А дзед Нічыпар, нарэшце толкам прачнуўшыся, ускочыў і няўцямна лыпаў вачыма.

На другі дзень Сцяпан Кухарчык далажыў у парткам пра выкананне задання: «Сустрэлі нармальна. Слухалі ўважліва. Дзед Нічыпар прылюдна пахваліў і заявіў, што лектар ведае пытанне на ўсе сто!..»

**Мікалай ГЛЕБ,**
*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*



**Віктар КУНЦЭВІЧ**




Торба выслізнула з рук,
Зазвінела шкло...
На сухі гарачы брук
Пацякло віно.
І узрушана дзяцюк
Мовіў: – Чорт... разбіў...
Што вы, чэрці, як без рук, –
Хоць бы хто злавіў!
– Хе, – асқаліўся адзін.
Іншы мовіў глуха:
– Плот, казёл, не гарадзі! –
Сцебануў у вуха...
І знаходлівы Лявон
Зноў пачуў крыштальны звон.

*г. Магілёў.*







Малюнкі Алега ПАПОВА.






# Дзявочая чачотка

Гэй, зайграйце, гарманісты,
Тую музыку – уга!
Няхай згінуць усе чыста
Мае гора і туга.

Я чачотачку станцую,
Мае боцікі – туп-туп!
І заўсёды мне шанцуе,
Бо вясёлаю расту.

Эх, цік-цікі-так
Мае «часікі»!
Ёсць на боціках, аднак,
Шчэ й абцасікі.

Хай парвуцца тыя боты,
Трэснуць і абцасікі.
Мне няма з таго турботы,
Хоць і ляснуць «часікі».

Я і ў полі працаўніца,
Ды і ў хаце ўсё змагу.
Я дзяўчына-чараўніца,
Разганю усю тугу!

Танцаваць жа досыць будзе:
Сонца закацілася.
Пашкадуйце мяне, людзі,
Бо я утамілася!



**Пятро БУРСЕВІЧ,**
*г. Слонім.*




Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

## ПРЫПЕЎКІ

Вам прыпеўкі дэкламую,
Пасмяяцца прапаную.
Ну, а хто не ўпадабае –
Сам няхай пяе ды грае!



Разважае так народ:
Каму крызіс, каму мёд.
Ды і нам чаго тужыць:
Усё роўна будзем жыць!



Штосьці Янка не ў настроі,
У асобным спіць пакоі.




Жонцы нехаця прызнаўся:
«Крызіс да мяне дабраўся!..»

**Праспяваў Мікола КУТАС,**
*Вілейскі раён,*
*в. Ілья.*



Жаніхоў багата маю
І назваць магу іх вам.
А каторага кахаю –
Хай здагадваецца сам!



**Агучыў Мікола ТОНКАВІЧ,**
*г. Мінск.*



Дужы конь, знойны конь,
Залатая грыва.
Любіць буду кавалераў,
Покуль буду жыва.






А мой Грышка адурнеў,
З чужой цёткай ў лазні сеў.
Я гадзінку думала,
Адышла і плюнула.



Калі любіш, дык любі,
Не кажы нікому.
Цяпер людзі разнясуць,
Як вецер салому.




**Запісаў Кастусь КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*

1982




**«Пусціўшы дома пагалоску,
Што я нядуж, лячыцца час, —
Пакінуў горад, еду ў вёску
Набраць здароўя пра запас».**

Янка Купала, *«Па Даўгінаўскім гасцінцы».*
*Малюнак В. КЛЮЧНІКА.*

1972



**«Дзе ты, сынку, начаваў,
Што не разуваўся?..»**

Янка Купала, *«Дзе ты, хмелю, зімаваў?..»*
*Малюнак М. ГУРЛО.*

1972




**«А гармонік грае, грае…»**

Янка Купала, *«Вечарынка».*
*Малюнак Я. БУСЛА.*




**ДА 130-ГОДДЗЯ
З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ
ЯНКІ КУПАЛЫ**

## Народны гумар народнага паэта

Вялікі праўдалюб і ўдумлівы жыццяпісец, **Янка КУПАЛА** (1882 — 1942) не цураўся і гумару. Вунь колькі яго, іскрыстага, вельмі зямнога, сапраўды народнага, у адной толькі камедыі «Паўлінка»! Гэта адзін з яскравых прыкладаў, як гумар аўтарскі адразу перарастае ў гумар народны. Бо кожны артыст, выконваючы тую ці іншую ролю ў гэтай п'есе, дадаў у яе і шмат свайго асабістага, пашыраючы тым самым межы яе гучання.

Кандрат Крапіва, патрыярх беларускай сатыры і гумару, у 1972 годзе ў прадмове да «вожыкаўскай» кнігі Янкі Купалы «Вечарынка» адзначаў, што пясняр «з'яўляецца адным з першых беларускіх байкапісцаў і пасля Францішка Багушэвіча зрабіў далейшы, больш значны крок у развіцці гэтага жанру».

Што і казаць, здатны быў на смех Іван Дамінікавіч. Нават дасылаючы сябрам паштоўкі, часам аздабляў іх гумарыстычнымі вершамі. І эпіграмай мог стрэльнуць так, што рэха чуецца яшчэ і сёння:

*Ён і работнік грамадзянскі,*
*Мужыцкі пан і служка панскі,*
*І антыквар, і археолаг,*
*І бібліёлаг, і філолаг,*
*І быў бы слаўны ён зусім,*
*Каб быў чым-колечы адным...*

Як не ўспомніць сатыру і гумар народнага паэта сёння, калі мы адзначаем 130-годдзе з дня яго нараджэння і калі творы гэтых жанраў, напісаныя славутым паэтам больш чым стагоддзе таму, так ладна стасуюцца да многіх з'яў нашай рэчаіснасці!..

**Янка КУПАЛА**

### І як тут не смяяцца...

На нашым хітрым свеце
Усяляк жыве народ:
Адзін жыве па-людску,
Другі жыве, як скот.

Адзін другім гандлююць,
Купляюць, як той квас, —
Падноскі падбіваюць
Стаячаму не раз.

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

* * *

Вось мчыцца пан на парцы,
Упражка зіхаціць!
І конікі абмыты,
І панскі лоб блішчыць.

На цэлы свет з пагардай
Дзікім глядзіць казлом,
А быў жа ён нядаўна
Авечак гандляром.

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

* * *

Вось хцівец грошы многа
З працэнтаў назбіраў —
І фабрыку паставіў —
Людзям заробак даў.

Працуе душ галодных
Там соценькі са дзве,
А ненасытны хцівец
Крывавы пот гняце.

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

* * *

Вось доктар, пан вяльможны,
Лякар мужчын, кабет,
Вядзе ўбогіх, хворых
Ў асобны кабінет.

Хукнуў, паслухаў троху,
І кажа рубля даць,
А сам, як быў студэнтам,
Шоў бедным памагаць!..

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

* * *

Вось ксёндз, служэбнік божы,
Ўвесь навучае люд,
Каб у касцёл хадзілі,
Каб не грашылі тут,

Каб к жонкам на вячоркі
Не бегалі чужым,
Бяднейшым памагалі.
А сам?.. Ну, бог і з ім!

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

* * *

Вось аканом пузаты,
На чым ёсць свет, раве,
Хоць клёку на капейку
Не мае ў галаве.

І лае так сусветна
Вясковых ён людзей;
А пасвіў жа нядаўна
У вёсцы той свіней.

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

* * *

Вось шляхціц, марны шэршань,
Той выскачак адзін,
Душу заціркай муча, –
Ужо ён гаспадзін!

Бяднейшаму ўжо брату
Рукі не падае,
Хоць сам такія ж лапці
На ногі надзяе.

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

* * *

Вось мужычок быў хітры, –
Абралі старшынёй;
Як чорт перамяніўся,
І свой яму не свой!

Зураднікам у шайцы
І з пісарам у лад,
Ён мужыкоў, як ліпак,
Абдзёрці ва ўсім рад.

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

* * *

Цяпер свае прыпеўкі
Я кіну да пары,
Бо шмат каму напэўна
Яны не па нутры.

Бо, як там кажуць: шапка
На злодзеі гарыць,
Ці – парасё хто ўкрадзе,
Таму ў вушах пішчыць...

І як тут не смяяцца
І праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

*1905 г.*

## БАЙКІ

### Асёл і навука

Аслова невуцтва не раз
Служыла дурням за паказ;
Дык вось нарэшце узялі –
Асла ў навуку аддалі
І сталі ўчыць яго чытаць, –
Вучылі нават і пісаць.
Асёл так шчыра ўчыцца ўмеў,
Што кніжкі ўсе, як сена, з'еў
І столькі ў гэтым скарыстаў,
Што горш убоістым ён стаў!..

---

Людзям ёсць тут такі прымер
(Ёсць людзі на быдля манер):
Хоць колькі не вучы асла,
Аслом ён будзе да канца!..

*1908 г.*

### Мікіта і валы

Ці летась, ці залетась, тут ці там –
Што мне няўцям,
Ляшыў Мікіта
Жыта,
І, як на злосць, яму адну
Валы скрывілі баразну.
Вось ён і стаў
(хоць добра йшлі ўсё лета)
Ім выгаварываці гэта:
«Я вас, – так кажа, – як магу
І сцерагу,
Сам недасплю,
А вас кармлю:
Трасяначкай зімою,
Улетку траўкай лугавою,
Штодня вадзіцы
Даю з крыніцы.
А вы што мне? – Бязбожна
Крыўляеце барозны,
Хоць і няможна
Ўсё такое»...
Валы пад тое:
«Мы б мо і не крыўлялі,
Каб павадоў, ярма і пуг не зналі».

*1910 г.*

1982



**«Паглядзі, сусед, на пушчу,
Як трашчаць галіны...»**
Янка Купала, *«Буралом»*.
*Малюнак Я. БУСЛА.*




**«Зірнеш. Брыдзе сабе фігура:
Мо ён чарняў, мо белабрыс...
Згадай, што гэта за натура? –
У снах аб почасцях закіс».**
Янка Купала, *«На тэму крытыкі і самакрытыкі»*.
*Малюнак М. ГУРЛО.*




– Вось дык Паўлінка – ніколі не старэе!
*Малюнак С. ВОЛКАВА.*




# Варэнікі

Сцяпан праславіўся ў вёсцы тым, што з маленства любіў смачна паесці. Як кажуць, хлебам не кармі, а дай чаго-небудзь смачненькага на зуб пакласці. Тады вочы агеньчыкамі заблішчаць, а сам дзесьці аж на сёмым небе будзе лунаць. У гэтыя хвіліны Сцяпан быў такі паслухмяны ды мяккі, што гліна пасля дажджу.

Гэтую слабіну мужа даўно ўлавіла яго жонка Алена. Таму заўсёды старалася прыгатаваць нешта смачнае, каб хацелася аж пальчыкі аблізаць. Але час ад часу Сцяпану стравы не падабаліся, і ён злаваўся, папікаючы: «Кума Ганна, хоць і жыве адна, а гатуе лепш! Не ўмееш, дык схадзі да яе ды навучыся!..»

Алене надакучыла слухаць гэтыя прыдзіркі, і яна рашыла як след правучыць мужа. Нарабіла раніцою бульбяных варэнікаў з сырам, разлажыла іх у дзве місы і заправіла ладным кавалкам сметанковага масла. Пасля схавала адну місу ў шафу, а другую аднесла той самай куме Ганне. Расказала пра мужавы кпіны і папрасіла, каб Ганна пачаставала гэтымі варэнікамі Сцяпана. Ганна паслухалася.

Неўзабаве яна паклікала Сцяпана падрамантаваць вароты. Мужчына ахвотна пагадзіўся. Калі работа была скончана, кума запрасіла памагатага за стол. Той, вядома, не адмовіўся ад чаркі са скваркаю ды яшчэ з варэнікамі ў прыдачу. Кульнуў чарку і ўзяўся закусваць.

— Эх, і смачныя ў цябе варэнікі! — стаў нахвальваць куму. — Мая Алена ніколі такіх не гатуе! Не ўмее...

— Ах, не гатуе! — на парозе раптам паказалася Алена. — Не ўмее! А гэта што? — яна паставіла перад мужам яшчэ адну місу з варэнікамі і загадала: — Каштуй!

Сцяпан не асмеліўся пярэчыць разззлаванай жонцы і з'еў варэнік.

— Такі ж самы! — вылупіў ён вочы.

— Вядома, такі ж самы! — зарагатала Ганна. — Бо і ў той, першай місе, Аленіны варэнікі былі. Дык што, ці ўмее твая жонка смачна гатаваць?

— Умее, — апусціў галаву Сцяпан і ўздыхнуў.

Больш ён ніколі не ганьбіў жонку за стравы, а да кумы хадзіць перастаў...

**Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




На веку кожнае жанчыны
Ёсць тры перыяды жыцця.
У іх наступствы і прычыны,
І сэнс жаночага быцця.
Ад нараджэння і да шлюбу
Яна татулю нервы рве,
А потым мужу чыніць згубу,
Рве валасы на галаве,
Затым ужо да скону веку
Зяцёўскі лад і быт псуе,
Жыць не дае як чалавеку,
Пры гэтым скача ды пяе!..

**Міхась МАЗУРЭНКА,**
*г. Мінск.*



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Міхася ШУЛЬГІ.




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА,
тэма Міколы НАВАРЫЧА.

## Сатырычныя шрацінкі

### Хам

Дзяцюк бабуль, дзяцей раскідаў,
На месца сеў для інвалідаў.
Літую меў мускулатуру,
Але кульгаў ён на культуру.

### Самадур

Ён падначаленых сваіх
Меў моду, быццам грушу, трэсці,
Пакуль самому нехта з іх
Гуз не набіў на «лобным» месцы.

### Распуснік

Калі пыталіся дзяўчаты,
Усім казаў, што нежанаты.
Ды гэта не перашкаджала
Яму прыдбаць дзяцей нямала.

**Вера МІХНО,**
*Мінскі раён, в. Бараўляны.*

## Мініяцюры

Ён марыў скочыць вышай носа,
Туды, дзе сонца і нябёсы,
Але дарэмна спрабаваў —
Нос адарвацца не даваў!

***

Не тварыкам, што як іконка,
Трымае суджанага жонка,
А тым, што чарку налівае,
Яна штодня яго трымае.

**Уладзімір ШПАДАРУК,**
*г. Рагачоў.*



Янка ГАЛУБОВІЧ

# Ліса й Мядзведзь

Казка





Панадзілася Ліса курэй красці. Але высачылі зладзейку, пасткі ставіць пачалі.

Схавалася Ліса ў нару, месца сабе не знаходзіць. На галодны жывот і сон не бярэ, і пасцель мулкая. А як раніцы дачакалася, нару пакінула. Бачыць, па сцежцы Мядзведзь клыпае, на плячах калоду цягне. Скеміла хітрыца, чым тут пахне, і да Мядзведзя хутчэй.

– Міхайла, галубок, што нясеш?

– Калоду з мёдам, сястрыца.

– А дзе ж ты яе ўзяў?

– З дрэва зняў. Во, так наеўся, але яшчэ застаўся мядок. Усё добра, што ў меру.

У Лісы, як пачула такое, і слінкі пацяклі. Забегла наперад ды кажа:

– А ў мяне сёння, Міхайла, вялікая бяда: без рыбы серада. Устала раней і на Нёман бягу. Ці не хочаш і ты разам са мной рыбкай паласавацца?

– А мая ты сястрыца, хто ж ад рыбкі адмовіцца?

– Тады пайшлі, Міхайла.

Ідуць яны ды ідуць. Мядзведзь з калодаю ледзьве на гару падняўся. Спыніўся і пытае:

– Мо заблудзіліся мы з табой, сястрыца? Нешта Нёмана таго не відаць.

– Ведаю, Міхайла, што цяжка табе з калодаю ісці. Ды блізка ўжо, пацярпі крыху.

Ідуць яны ды ідуць. Мядзведзь ні пра што болей не пытаецца, адно сапе ззаду.

Падвяла Ліса яго да пасткі, у якую сама надоечы ледзьве не трапіла, і кажа:

– Начынне маё тут ляжыць. Трэба яго з сабою ўзяць: лягчэй будзе рыбу лавіць.

Сунуў Мядзведзь лапу ў пастку, а тая як кляцне! У Мядзведзя і дух заняло. А Ліса яму:

– Хоць і рана яшчэ, Міхайла, ды давядзецца табе начаваць тут.

Таўханула лапаю калоду з мёдам і пакацiла з гары.

А Мядзведзь зароў ад роспачы і паўтарыў вядомае: «Хто з Лісою павядзецца, той бяды набярэцца».

***Рэдакцыя часопіса «Вожык» шчыра віншуе свайго даўняга сябра і аўтара з г. Маладзечна, пісьменніка Янку (Івана Іванавіча) ГАЛУБОВІЧА з 70-годдзем, жадае яму моцнага здароўя і творчага плёну.***

## Віктар ГАРДЗЕЙ




Сказ пра Вову – без абразы,
Дый пра Генку не маню.
Непаседы, верхалазы,
Хоць у вёсцы ўпершыню.

Жвачку ўсё жуе карова,
Ледзь прыляжа дзе на дол.
– Што жуеш? – пытае Вова. –
«Орбіт»? «Стымарал»? «Дзірол»?

Не дапяць чаго – ганебна
Гарадскім, як ёсць, братам.
Кажуць: – Ёй адной патрэбна
Жвачак цэлы кілаграм.

У каровы – перазменка,
Зарыкала ля двара.
– Зразумелі! – кажа Генка. –
Сырадой збіраць пара.

Думаў: бабка проста выме
Той раздзьмуты туга шар,
Бо не знаў, што гэта вымя,
Дык сказаў: – Рэзервуар!

Апаўдні перад ядою
Бабка прынясе з хляўка –
Генка кажа: – Сырадою,
Вова кажа: – Малака.

Кубкі з цёплай белай пенкай
Бабка ўнукам падае:
– Выпі, Вова! Выпі, Генка!
Ах, разумнікі мае!







Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Уладзімір МАЦВЕЕНКА

### Загадка-задачка



У бабулі Люсі
На падворку гусі
Раніцай гагочуць,
Пэўна, есці хочуць.
Ля калодзежа гусак
Важна тэпае сяк-так.
Побач з ім – пяць гусачак
У бялюткіх хустачках.
Непаседы гусяняты,
Быццам тыя акрабаты,
Зранку забаўляюцца,
Скачуць і куляюцца....
Двое – б'юцца каля плота,
Трое – рвуцца на балота,
Трое – ў траўцы ля мяне,
Двое – ў цюцькі на спіне.
Тузік ціхенька ляжыць,
Робіць выгляд, быццам спіць.
Падышоў малы Мацвей
І пачаў лічыць гусей.
Палічыць, аднак, не можа.
Хіба з вас хто дапаможа?



(Шаснаццаць гусей.)

Дапамажы кату прайсці да гантэляў



# Таямніца «Начнога дазору»

У панядзелак пасля працы Максім паспяшаўся дахаты. Нарэшце ён спраўдзіў сваю мару і купіў DVD-прайгравальнік. Пакуль карміў скаціну, а потым мыўся і вячэраў, толькі і ўяўляў, як будзе глядзець па ім фільм «Начны дазор». Зручна ўладкаваўшыся на канапе, з імпэтам націснуў на пульт... Прачнуўся Максім ноччу. Па экране тэлевізара беглі снежныя палосы і плямы. DVD маўчаў і памільгваў агеньчыкамі. «Эх, заснуў амаль на самым пачатку! — пачухаў мужчына патыліцу. — Ну нічога, заўтра дагледжу...»



Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ.

Назаўтра ён устаў а палове шостай, спарадкаваў гаспадарку, паснедаў і пайшоў на працу — на лесапілку да мясцовага «буржуя». Работа цяжкая, але заробак добры, суседзі зайздросцяць. Адпрацаваўшы змену, Максім пацягнуўся дахаты. У хляве парсюк падняў дошкі ў загоне. Узброіўшыся нажоўкай, малатком і цвікамі, за пару гадзін гаспадар адрамантаваў падлогу. Перарабіўшы ўсе справы, Максім нарэшце сеў на канапу і ўключыў DVD...

Нехта трос яго за плячо. Мужчына расплюшчыў вочы.

— Ідзі спаць, кіншчык! — жонка, пазяхаючы, выключала DVD.







Максім спрасонку наляцеў у прыхожай на ровар дачкі, дайшоў да спальні, распрануўся і лёг у ложак. Таямніца «Начнога дазору» і сёння засталася нявысветленай.

У сераду дахаты Максім прыйшоў позна: дацямна загружалі машыну дошкамі. Жонка сама ўпарадкавалася па гаспадарцы. Паваждаўшыся з дзецьмі, якія яшчэ не спалі, Максім уключыў DVD. Сёння ён цвёрда вырашыў дагледзець фільм да канца, нават заварыў кубак моцнай кавы. Але толькі паглыбіўся ў чароўны свет кінамастацтва, як перад экранам тэлевізара паўстала постаць жонкі. Вабныя формы пад тонкай начной кашуляй гаварылі самі за сябе... Кінасеанс адклаўся да наступнага вечара.

У чацвер Максім прыйшоў такі стомлены, што адразу заваліўся спаць.

У пятніцу выцепліў лазню. З куфлем халоднага піва ўладкаваўся перад тэлевізарам... Прагляд фільма заняў, як потым зразумеў Максім, хвілін пяць.



Малюнак Алега ПАПОВА.

У суботу ў госці завітаў цесць. Зяцю карцела пахваліцца набыткам, і ён уключыў DVD. Пакуль сядзелі за сталом, на экране мільгалі кадры, але чым усё скончылася, так ніхто і не заўважыў. Не да гэтага было...

У нядзелю Максім змяніў тактыку і пачаў прагляд не з пачатку фільма, а з таго моманту, на якім скончыўся мінулы кінасеанс. Поспех быў відавочны. На гэты раз ён заснуў недзе на сярэдзіне фільма.

На наступным тыдні, які быў поўны разнастайнымі клопатамі і справамі, Максім дагледзеў нарэшце «Начны дазор». І, пазіраючы на фінальныя цітры фільма, пагадзіўся: прагрэс — вялікая справа! Па тэлевізары, а не па DVD-прайгравальніку ён глядзеў бы «Начны дазор» яшчэ доўга...

**Алесь РЫБАЧОНАК,**
*Мінскі раён,*
*пас. Міханавічы.*

# У нас у гасцях




*Дарагі дружа Перац!*

*Рэдакцыя і рэдкалегія часопіса «Вожык» шчыра і сардэчна віншуе цябе са слаўным 90-годдзем! Будзь заўсёды такім жа пякучым, вострым, дасціпным і вясёлым, як і цяпер. Ведай, дарагі сябар, што Вожык заўсёды рады бачыць цябе ў гасцях. Жадаем табе шматтысячных чытачоў, падпісчыкаў і новых творчых здзяйсненняў!*

*Твой «калючы» пабрацім Вожык.*



## Караткаслоўі

### Бяда

Цяпер людзі замест таго, каб дапамагчы камусьці ў бядзе, спачатку здымаюць гэтую бяду на мабільны тэлефон.

### Сумленне

Правільна выхаванае сумленне ніколі не грызе свайго гаспадара.

### Парада

Мужы, перад тым, як назваць жонак зайчыкамі, падумайце, ці хопіць у вас капусты.

### Аб'ява

«Згубіў кашалёк з зарплатай. Вельмі прашу, калі хто знойдзе, не рагатаць».

### Тлумачэнне

«На патрабаванне даішніка аддаць правы, я сказаў: «Не магу, гэта падарунак!»

### Папярэджанне

«Каб вас не разнесла, старайцеся не есці пасля васямнаццаці і не курыць каля бензакалонкі».

**Прыслаў Мікола ХАРАШУН.**
*г. Палтава.*

*«Цяпер на вёсках малако прымаюць па дзве грыўні за літр, а ў магазінах за гэты літр просяць ад сямі да трынаццаці грыўняў».*
*Факт.*



–У Рабуні лопнула цярпенне – вырашыла прадаваць малако без пасрэднікаў...

Рыгор МАЁРАНКА



– Далей нельга! Ваван Ваванавіч «паляну» накрыў. У іх дзень нараджэння.

Анатоль ВАСІЛЕНКА

## Пра тое-сёе

У павільёне ўзбоч дарогі
Прадаюць у нас хот-догі.
Я купіў сабе хот-дог,
З'еў яго, дык ледзь не здох.

### Пра нашы дарогі

Рамантуюцца у нас
Кожны год дарогі,
Ды на тых дарогах
Чорт зламае... рогі.

**Косць ВАЛЫНЯКА.**
*г. Луцк.*

## Народная ўсмешка

Уласнік крутой фірмы гутарыць з мэрам:

– Мая фірма мае непатрэбны «Мерседэс». Новы-навюткі. Апошняй мадэлі. Мы маглі б вам яго падарыць.

– Не, я не магу прыняць такі дарагі падарунак.

– Ну, тады мы маглі б прадаць яго за сто еўра...

– У такім выпадку я куплю два...

**Пачуў і запісаў Сцяпан БЕБОЯ.**
*г. Рахаў Закарпацкай вобласці.*




Валеры ЧМЫРОЎ




Анатоль ВАСІЛЕНКА

Даніла КУЗНЯЦОЎ







Юры АПЕКАН




Уладзімір АДАМОВІЧ



– На нас рухаецца страшэнны крызіс!
– Ён ужо на парозе...

Анатоль ВАСІЛЕНКА

– Глядзі, куды едзеш!

Уладзімір САЛАМАШАНКА